# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

№1



1936



Скульптура мастака Вальдмана

# ПЯЦЬ ДЗЁН І НАЧЭЙ

*Гэты верш напісаны ў дні вялікай жалобы, калі ўсе працоўныя і іх дзеці хавалі дарагога свайго Ільіча*

Раней, чым пахаваць ў магіле
Навекі ад жывых людзей,
Ў Калонным зале палажылі
Яго на пяць дзён і начэй.

І пацяклі людзей натоўпы
К яму з слязамі на вачах,
Каб паглядзець на профіль жоўты,
Чырвоны ордэн на грудзях.

Цяклі. А сцюжа над Масквою
Такая лютая была,
Як быццам ён забраў з сабою
Часціну нашага цяпла.

В. ІНБЕР.





# ПІСЬМО ІЛЬІЧУ

*Апавяданне П. ЗАМОЙСКАГА*
*Рысункі А. ШАХРАЯ*

У Парфёна, Прошкавага бацькі, бяда нарадзілася на дзесяць, а можа і больш гадоў раней за яго. Чаго-чаго Прошкаў бацька не рабіў: і жабраваў, і пастухом быў, і ў парабкі наймаўся, — не, не пакідае чалавека бяда ды і годзе.

Адна ў Прошкавага бацькі ўцеха: прыдзе „час". Які гэта „час", калі ён прыдзе, адкуль, — ніхто не ведаў, ды і сам Парфён не ведаў, а запытаюцца—маўчыць.

Прошка—хлапец растаропны. Вушы стрэлкамі ўверх, нос кукішам, ды і сам з кукіш.

— Калі-ж гэта, — спытае ён у бацькі, — калі такі час прыдзе?

— А вось пачакай.

Прошка чакаў. Чакаў, а валасны старшыня паспеў за падаткі карову забраць, а перад самай сяўбой і конь здох.

Прошка плакаў і гаварыў як дарослы:

— Вось і жыві тут.

Ад братоў з фронта ні слуху, ні духу. А вось як цяпер жыць Прошку, калі бацька зусім у ложак злёг...

— Ты гаспадар, — кажа бацька.

Так, добры гаспадар! Яму-ж толькі дзевяць год, яму яшчэ па вуліцы бегаць.

Неяк з воласці прыехаў конна пасланец і—проста да стараставай хаты. Выбег стараста, паклікаў дзесяцкага, і хутка да стараставай хаты сабралася ўся вёска.

Нехта чытаў газету, нехта крычаў.

Пасля Прошка бачыў, як увесь народ рушыў па вуліцы, і ўсе былі вясёлыя і радасныя.

І пачуў тут Прошка незнаёмае слова:

— Рэволюцыя.

Крычалі аб тым, што цяпер уся зямля — народу, улада—народу, а паноў гнаць.

Не разумеў Прошка гэтых слоў, але зразумеў з іх адно:

— Прышло... „Гэта самае" прышло.

І ўлїўся тады Прошка ў вялікую гушчу людзей, потым прабраўся наперад і пачаў хадзіць па вёсцы з чырвонымі сцягамі.

— Рэволюцыя!

---

Колькі Прошка бачыў за гэтыя тры гады — не пералічыць. І старшыню і ўрадніка з вёскі

пра нат, і кулакоў у горад вазілі, і коні мабілізавалі, і салдаты ў вёску з вінтоўкамі прыязджалі.

А то неяк прышоў дадому з фронта Сцяпан. Кожны дзень збіраў ён народ і гаварыў аб буржуях, аб рэволюцыі, аб Леніне і кулаках.

Але цяжка на сэрцы ў Прошкі. Хоць і прагналі з камітэта крамніка з царкоўным старастам, хоць і пасадзілі бедняка, а ўсё-ж— цяжка. Бачыў Прошка, што навакол нібы ўсё змянілася,—і людзі змяніліся, і хата, і ён сам, Прошка, паразумнеў, а вось яна, бяда бацькаўская, яшчэ засталася. І не мог з ёю змагацца Прошка, і страціў сілу яго бацька. Вось ужо і зіма прышла, а ён ляжыць на печы ды стогне. А ці шмат хлеба настогнеш?!



А то неяк прышоў дадому з фронта Сцяпан.

Сцяпан гаварыў:

— Прошка, прышоў час. Табе трэба быць з вусамі, разбірайся ў справах і слухай.

А маці дома казала:

— У совет хадзі, да Сцяпана хадзі, больш слухай. У совеце пра рознае гавораць, аб большэвіках шмат гавораць.

---

Сцяпана Прошка слухаў з разяўленым ротам і не прапускаў ніводнага слова. Апрача таго, Прошка ўсё-такі быў пісьменны і браў чытаць кніжкі ў Сцяпана. З іх ён даведаўся, што такое рэволюцыя, комуністы і Ленін. Сцяпан заўважыў, што Прошка ўвесь час цікавіцца жыццём Леніна, і аднаго разу ўвечары ён расказаў Прошку ўсё, што ведаў пра Леніна.

— А ты яго бачыў?

— Бачыў. Гаварыў з ім.

— Аб чым гаварыў?

— Аб зямлі і сялянах.

— Ну-у?

І калі Прошка слухаў Сцяпана, яму было лёгка і радасна, але як толькі прыходзіў дадому, зноў рабілася яму вельмі цяжка. Гаспадарка Прошкава гінула, разляталася ўшчэнт. Слёзы засцілалі вочы.

Малыя крычалі і прасілі хлеба, а маці плакала і праганяла яго з Рыгоркам жабраваць.

За два месяцы ў Прошкі здарылася два няшчасці: памёр Сцяпан ад раны ў грудзях, і ад сухотаў маці злягла ў пасцель.

Прошка кінуўся да суседзяў, сваякоў, знаёмых, але суседзі хлеба не далі.

Аднаго разу ўвечары прышоў Прошка дамоў. Усе ўжо спалі. Запаліў газнічку і сеў за стол. На стале валяўся сухар хлеба і стаяў кубак вады.

Пасля сухара ў жываце яшчэ мацней зашчымела і галава пайшла кругом. Апёршыся локцямі на стол, Прошка задумаўся.

Чамусьці ўсплыў у памяці Сцяпан... Яго гутаркі пра Леніна...

І раптам думка адна прышла ў галаву, сэрца ад гэтага мацней забілася, рукі затрэсліся. І дзіўна!—зрабілася светла і радасна.

— Так, Ленін!

Дастаў сшытак, ручку, прыслухаўся,— ці ўсе спяць, і расклаў усё гэта на стале.

Потым уздыхнуў і напісаў:

*ДЗЯДЗЕЧКУ ЛЕНІНУ.*
*Ад Прошкі.*

*Гэта я табе пішу, дзядзечка, я, Прошка, Парфёна Дудкіна сын. Ты жывеш там, у горадзе, а я тут з таткам у вёсцы перабі-*

*ваемся. А вёска наша вялікая, ад горада далёка. А татка мой хварэе ўвесь час. Мамка таксама ўсё ляжыць ды стогне, а хлеба ў нас зусім няма, і есці нам няма чаго. Мамка нас усё на вуліцу жабраваць гоніць. Сёння гнала, дык я не пайшоў. Грышка пайшоў.*

*Ты там, дзядзечка, я ведаю, распараджэнне выдаў, каб нам зямлю далі,—яе нам далі, гэта праўда, толькі яна без толку, бо конь у нас перад самай сяўбой даўно ўжо здох. І так ён быў худы, а цяпер няма ніякага. І няма ў нас ні каня, ні каровы. І што нам рабіць,—не ведаю сам. Бацька ўсё ляжыць і богу моліцца, а я яму і кажу: „богу не вер, бог—гэта мана“. Татка лаецца. Нас у сям'і вельмі шмат і ўсе просяць хлеба. Што мне рабіць,—не ведаю. Браты на фронце. Таму вось і пішу табе.*

*Я цябе часта ў совеце у нас на партрэце бачу. Бародка ў цябе невялікая, а адно вока прыжмурана.*

*Вось што, дзядзечка Ленін: калі цябе пусцяць, альбо сам адпросішся, то выберы час, як-небудзь вясною, і прыедзь да нас у вёску. Зімою не едзь: вёска наша далёка ад горада, а калі паедзеш у санях, абавязкова прастудзішся, альбо адмарозіш рукі і вушы. Калі прыедзеш, дык проста да нас. Вось хата толькі ў нас вельмі чорная, але ты як-небудзь не запэцкаешся. Прыедзеш, я табе шмат чаго шапну на вуха“.*



**Малыя крычалі і прасілі хлеба.**

На ложку заварушыліся дзеці. У калысцы запішчэла малое.

Прачнулася маці.

Прошка склаў ліст і ўткнуўся ў кнігу.

— Ты што робіш там?

— Чытаю.

— Другі раз пеўні праспявалі. Кладзіся спаць.

Маці заплюшчыла вочы, а Прошка пісаў далей:

*„Мяне ты хутка знойдзеш. Я—лапавухі такі, маленькі. Калі не будзеш мець часу,—пісьмо напішы. Мы з табой пісьмы будзем адзін аднаму пісаць. Пішы чым болей,—усё разбяру.*

*Адрас мой: вёска Сабалеўка, Чэмбарскага павета, Пензенскай губерні, Парфёна Дудкіна сыну—Прошку.*

*Прыязджай, я чакаю.*

*Пісаў і складаў табе*

*ПРОШКА“.*

Ён некалькі разоў перадыхнуў запалымі грудзьмі, прагледзеў пісьмо, нешта выкрасліў, упісаў, склеіў з паперы канверт, падсыпаў сажы ў чарнільніцу, памяшаў, і, асцярожна выводзячы літары, напісаў:

*У МАСКВУ*

*атрымаць ЛЕНІНУ.*

Раніцою, ледзь развіднелася, пабег Прошка на пошту, укінуў пісьмо ў скрынку, лёгка ўздыхнуў, прышоў дадому і стаў чакаць.

---

І... цуда! Ад такога цуда ў Прошкі дух захапіла. Ён не адчуваў пад сабою ног, калі па яго і па бацьку прышлі ў совет.

— Папера Вам ад Леніна.

У совеце стаяў чалавек у скураной куртцы. Ён, усміхнуўшыся і Прошку і яго бацьку, прачытаў:

Р. С. Ф. С. Р.
Председатель
СОВЕТА
Народных Комиссаров
Москва
Кремль
26/XII—1920 г.

Чембарскому Уисполкому,
Пензенской губ.

*Прошу обратить самое серьезное внимание на бедственное положение кр на с. Соболевки, Дудкина Парфена. Выдайте ему из Собеса одежду и лошадь, как семье красноармейца. Из Уземотдела отпустите леса, из Упродкома—хлеба.*

*Сына его, Прокофия, отправьте в городскую школу I ступени на государственное содержание. Так-же обратите серьёзное внимание на действия местной власти и на ее отношение к беднякам.*

*Об исполнении донесите мне.*

*Председатель СНК* В. Ульянов (Ленин)

...Ужо будучы ў горадзе, доўга, бывала, пасля заняткаў Прошка ўсё глядзеў і не мог наглядзецца на партрэт дарагога Леніна.

А калі хто-небудзь пачынаў гаварыць пра Леніна ў павятовым камітэце або Саюзе моладзі, у Прошкі настарожваліся вушы, ён увесь чырванеў і не зводзіў вачэй з таго, хто гаварыў.

Гэта гаварылі аб ім, аб Леніне, які заступаецца і дапамагае бедным і за якога ён, Прошка, усё сваё жыццё аддасць.

Ды што жыццё? Было-б іх дзесяць,—усё аддасць.



Прошка ўздыхнуў і стаў пісаць.




*Апавяданне* А. ПЕТРОВА
*Рысункі* Г. ЗМУДЗІНСКАГА

Старая дзікая свіння—яе звалі Адважнай—гуляла з парасятамі па лесе. Яна раз-по-разу спынялася і сваім магутным рылам разграбала глыбокі снег. Пад ім—сярод пажоўклых лісцяў—ляжалі жалуды і масляністыя кедравыя арэшкі. Парасяты з прагнасцю накідаліся на яду; яны дружна чаўкалі і ад задаволенасці пакручвалі хвосцікамі.

Раптам Адважная наставіла вушы: ёй здалося, што трашчыць сушняк. І сапраўды, ровам прабіралася нейкая жывёла. І не адна, а цэлая чарада: трэсь-трэсь,—і цішыня. Толькі ў лесе стукаў дзяцел ды пішчалі сінічкі. І зноў—трэсь-трэсь...

Вецер пацягнуў з рова. Ноздры Адважнай трывожна заварушыліся.

— Ваўкі!—рохнула яна.—За мною хутчэй!

Парасяты пабеглі за маткай уніз з гары. О, яны ўжо ўмелі хутка бегаць і спрытна пераскаквалі праз груды буралому.

— Хутчэй! хутчэй!

Сям'я віхрам памчалася праз лагчыну на суседнюю гару. Снег прыгаршчамі вылятаў з-пад ног ды іскрыўся ў паветры.

На дарозе трапіўся на палавіну замёрзшы ручаёк.

Раз-два! Раз-два! Раз-два! Маці з дзецьмі мільганулі над ручайком ды кінуліся ў лазовыя заараснікі.

Збегшы з гары, Адважная крута павярнула. Тое-ж зрабілі і парасяты. Які жах! Па іх сляду ляцела чарада ваўкоў. Яна ўжо спускалася з гары ў лагчыну.

— Далей! Без аглядкі!—рохнула маці.

Сям'я памчалася па лесе. Круты спуск... Замёрзшае куп'істае балотца... Потым зноў лес... Глыбокі, да палавіны замецены снегам роў... Спуск у лагчыну да рэчкі.

Парасяты проста нібы ляцелі над снегам. Маці ведала, што дзеці патаміліся, але пра



*Воўчая зграя наляцела, як гураган. Пярэдні воўк з разгону кінуўся на Адважную, але атрымаў такі ўдар рылам, што з візгам перакуліўся на снег.*

адпачынак не магло быць і гутаркі: вораг гнаўся па пятах...

— Хутчэй! хутчэй!

Адно з парасят спатыкнулася і кулём пакацілася па снягу. Праўда, яно адразу кінулася даганяць сваіх, але час быў патрачан...

Адважная на момант павярнулася. Ваўкі насцігалі іх.

— Наперад, што ёсць сілы!

Сям'я зноў памчалася, але ўжо не так хутка, як раней. То адно, то другое парасё адставала, заваліўшыся ў глыбокі снег.

Ваўкі-ж набліжаліся з кожнай хвілінай.

І вось Адважная спынілася. Бегчы было бескарысна. Што рабіць? Як выратаваць дзяцей?

Наперадзе ляжала вывернутае бурай дрэва.

— Пад карэнні! Жыва! — скамандвала маці.

Парасяты ўмомант зашыліся пад аблеплены снегам вываратень. Адважная засланіла іх сабою і павярнулася да ваўкоў.

Воўчая зграя наляцела, як гураган. Пярэдні воўк з разгону кінуўся на Адважную, але атрымаў такі ўдар рылам, што з візгам перакуліўся на снег. Астатнія ваўкі акружылі Адважную. Іх было аж дванаццаць штук. Зверы сярдзіта ляскалі зубамі. Іх шэрая аб'інеўшая шэрсць узнялася дубка.

Грозна рохкаючы, Адважная стаяла перад ворагамі. З яе рота выступіла пена. Біцца? Няхай! Вядома, яна загіне... Загінуць і дзеткі... Хіба яна можа справіцца з цэлай чарадой?

Але яна дорага прадасць сваё жыццё і жыццё дзяцей!

Воўк, што стаяў з краю, зрабіў вялікі скачок і схапіў Адважную за вуха. І ў тую-ж секунду ён высока ўзляцеў у паветра. Але з другога боку падскочылі два маладых ваўкі. Адважная паспела адкінуць і іх; адзін з нападаўшых ударыўся аб пень, а другі, падаючы, збіў з ног ваўчыцу. Пакуль Адважная расправілялася з гэтымі маладымі ваўкамі, у яе шыю глыбока ўпіліся моцныя зубы важака воўчай зграі. Адважная раптоўна павярнулася і, схапіўшы зубамі воўчую скуру, адным духам разарвала яе ад пляча да жывата. Акрываўлены воўк зароў і пакаціўся па снягу.

Ваўкі адскочылі. Яны пайшлі на хітрыкі: адны рабілі выгляд, што нападаюць, а астатнія ўзяліся разграбаць снег паміж карэннямі, каб зайсці ззаду. Адважная бачыла іх намеры, але не магла ім перашкодзіць. Яна толькі глыбей залезла пад карэнні, каб захаваць парасят.

Снег пасыпаўся зверху і з бакоў. Паміж карэннямі замільгалі воўчыя лапы і галовы. Парасяты спалохана замітусіліся за спіной маткі. Цяпер усё скончана... Ратунку няма...

Але што гэта? Ай-ай! Страшэнны трэск у кустах, раззлаванае свіное рохканне... Усё бліжэй, бліжэй...

Крайні воўк трывожна наставіў вушы. Увесь у снягу, з-за буралому вылецеў і ўрэзаўся ў воўчую зграю Сякач—муж Адважнай. Ён ішоў удоўж рова, і вось раптам ўбачыў, як абаранялася ад ваўкоў яго жонка. На Секачовым хрыбце ўздыбілася шчаціннe. Ён люта зарычэў і проста праз кусты рынуўся ратаваць сваіх.

Сякач важыў дзвесце шэсцьдзесят кілограмаў, а яго трохкантовыя абточаныя, як нажы, клыкі на цэлую чвэрць аршына выступалі з рота. Атакі такога байца не мог-бы вытрымаць ніводзін звер. Умомант два ваўкі з распоратымі бакамі папаўзлі па снягу. Сякач з разгону прамчаўся скрозь чараду, але адразу крута павярнуў і зноў напаў на ворагаў. Ад кожнага яго ўдару з візгам адлятаў у бок смяртэльна паранены воўк.

Праз хвіліну бой скончыўся. На снягу валялася пяць здыхаўшых ваўкоў. Астатнія разбегліся ва ўсе бакі.



# Хлопчык і певень

*Верш АНДРЭЯ АЛЕКСАНДРОВІЧА*
*Рысункі А. ВОЛКАВА*

Сам сабе катлетку смажыў
І запэцкаўся у сажу.

Каб ніхто не змог сварыцца—
Ён рашыў пайсці памыцца.

А слану ён загадаў,
Каб катлетку пільнаваў.

Ку-ка-рэ-ку! Ку-ка-рэ-ку!
Вось і певень тут аднекуль

Доўганогі, спрытны гэткі
Падляцеў, хапіў катлетку.

Дзюбаў, дзюбаў—аслабеў,
Толькі збрудзіў, а не з'еў.

Хлопчык—зірк,
Няма катлеткі.

Аж заплакаў
З крыўды гэткай.

— Вось паганы!
— Вось нашкодзіў!

Кыш, пракляты!
Ах ты, злодзей!

Певень крыллі распасцёр—
Праз акно уцёк на двор.

Як даведалася маці—
Пачала сынка ўпікаці:

— Эх, сыночак мой, Андрэй,
Больш з агнём ты не дурэй,

А захочаш есці—знай,—
Сваю мамку пачакай.



# СПАРТАК

*Нарыс Я. МАЎРА*
*Рысункі А. ВОЛКАВА*

Гэта было дзве тысячы гадоў таму назад.

Самай магутнай дзяржавай тады была Рымская рэспубліка. Бадай усе вядомыя ў той час народы залежалі ад Рыма. Ад усіх іх Рым збіраў золата, тавары, хлеб. Багацці з усяго свету цяклі ў Рым.

Але ўсе гэтыя багацці траплялі ў рукі невялікай групы паноў, так званых патрыцыяў. Бедныя людзі—плебеі—нічога не мелі, хоць будучы рымлянамі таксама лічыліся „ўладарамі свету“.

Плебеі ваявалі ва ўсіх краях, яны здабывалі багацце для патрыцыяў, а калі вярталіся на радзіму, то часам не знаходзілі і сваёй хаты: яе забіраў за даўгі патрыцый. Плебею заставаўся толькі гонар, што ён рымлянін, уладар свету.

Але былі ў Рыме і такія людзі, якім жылося яшчэ горш як плебеям. Гэта былі нявольнікі, рабы. У час войнаў рымляне забіралі ў палон як мага больш народу, не толькі салдат, але і жанчын, дзяцей.

Гэтых людзей адпраўлялі ў Рым і прадавалі, як скаціну. Патрыцыі панакуплялі сабе сотні і тысячы нявольнікаў, якія дарма працавалі на гаспадара.

Рабы не лічыліся за людзей. Яны нават называліся „гаспадарчай прыладай, якая ўмее гаварыць“. Толькі гэтым яны адрозніваліся, скажам, ад сахі, якая гаварыць не ўмее. Такім чынам, гаспадар мог рабіць з нявольнікам што толькі хацеў: ці прадаць, ці спаліць, ці прымусіць рабіць якую хочаш работу, ці зняць з яго скуру, адным словам, усё, што можна рабіць са сваёй прыладай або жывёлай.

Нарэшце дадумаліся скарыстаць рабоў для жудаснай, крывавай забавы: прымушалі іх біцца адзін з адным насмерць у цырку, на пацеху публікі. Такія байцы называліся гладыятарамі. Былі нават спецыяльныя школы, дзе гэтых гладыятараў навучалі біцца і паміраць так, каб гэта падабалася гледачам.

У адной з такіх школ, у горадзе Капуі, толькі што скончыліся заняткі. Сам гаспадар, Лентул, наглядаў, як біліся паміж сабой гладыятары драўлянымі мячамі. Часамі ён аб нечым гаварыў з інструктарамі, а потым нешта запісваў на сваёй васковай дошчачцы.

Пасля заняткаў гладыятары разышліся па сваіх камерах, і іх зачынілі на ключ.

У адной такой камеры было чалавек шэсць. Яны ляжалі ці сядзелі на сваіх нарах і ціха гаварылі.

— У нас у Галіі цяпер усе лугі цвітуць,— нібы сам да сябе казаў малады гладыятар з вялікімі задуменнымі вачыма.—Ніколі ўжо не давядзецца ўбачыць іх.

Яго сусед, высокі, вельмі дужы мужчына гадоў трыццаці, палажыў яму руку на плячо і сказаў:

— Не сумуй, брат Гор. Ад нас саміх залежыць убачыць родныя месцы.

— Якім чынам?

— Ды заместа таго, каб біць нам адзін аднаго, мы маглі-б усе разам пабіць нашых гаспадароў і вызваліцца.

— Во, каб гэта ды ўсе!—уздыхнуў Гор.— Ды толькі гэтага ніколі не можа быць. Не дагаворышся з усімі.

— Усіх і не трэба. Хай пачне хоць сотня, а там далучацца тысячы.

— Спартак праўду кажа,—умяшаўся трэці гладыятар.—Усёроўна мы мусім загінуць. Навошта-ж тады...

Тут ён павінен быў спыніцца, бо ў дзвярах забразгаў ключ, і праз момант увайшоў інструктар.

— Заўтра будзе гладыятарскі бой,—сказаў ён.—Падрыхтавацца Спартаку і Гору. Яны будуць выступаць у пары.

Спартак ускочыў. Грудзі яго закалыхаліся.

— Я прасіў-бы, каб мне вызначылі кагонебудзь другога, незнаёмага, а то з сваім прыяцелем біцца вельмі цяжка...

— Мусіць таму гаспадар і прызначыў вас,—усміхнуўся інструктар.—З ворагам біцца кожны ўмее, а вось цікава паглядзець, як будуць біцца прыяцелі.

І ён вышаў за дзверы.

Ціха стала ў камеры. Толькі чуваць было, як цяжка дыхае Спартак. Гор утаропіў вочы некуды ў кут.

— Ну што ж,—сказаў ён, нарэшце.—Прыдзецца памерці. Толькі ты, Спартак, пастарайся, каб адразу...

— Не, Гор, я не магу. Лепш ужо я памру. Ды, нарэшце, яшчэ невядома, хто каго пераможа.

— Ну, гэта добра вядома.

— У такім разе я адмоўлюся біцца з табой,—ускрыкнуў Спартак.

— Тады мне загадаюць забіць цябе. Я адмоўлюся, і мы абодва загінем. Не, ці так, ці гэтак, мне ўсёроўна загінуць трэба. Лепш ужо аставайся ты і паспрабуй выканаць справу, аб якой толькі што казаў...

---

Назаўтра ў цырку, перад тысячамі гледачоў, было забіта дзвесце чалавек. У тым ліку і Гор.

Тысячы людзей віталі самага выдатнага пераможцу:

— Хай жыве храбры Спартак!

А Спартак глядзеў на іх з нянавісцю і думаў: „Але, я павінен жыць, каб адпомсціць вам за гэтых забітых таварышоў“.

---

Праз два месяцы ў Рыме былі атрыманы весткі, што з Капуі ўцяклі семдзесят гладыятараў, разграбілі некалькі маёнткаў, вызвалілі сотні рабоў, якія далучыліся да паўстанцаў. Камандуе імі выдатны гладыятар Спартак. Знаходзяцца яны цяпер на гары Везувій.

Зараз-жа паслалі к Везувію тры тысячы салдат пад камандай Глабра.

Выявілася, што на гару вядзе толькі адна сцежка, а з іншых бакоў стромкія сцены, па якіх ні спусціцца, ні падняцца нельга.



*„Я павінен адпомсціць за гэтых забітых таварышоў"—з нянавісцю думаў Спартак.*

Глабр загарадзіў гэтую сцежку і пачаў чакаць, калі голад прымусіць Спартака здацца.

А Спартак загадаў скруціць з зялёнага галля вяроўкі, спусціў па іх свой атрад і напаў на рымлян ззаду.

Рымляне былі разбіты ўшчэнт і ўцяклі, пакінуўшы для Спартака багатую здабычу.

Тады супроць Спартака было выслана войска ў дзесяць тысяч чалавек. І яно таксама было разбіта.

Потым паслалі трыццаць тысяч чалавек. І іх Спартак разбіў.

Пасля таго выслалі армію ў шэсцьдзесят тысяч чалавек. І зноў яна была разбіта.

Тры гады Спартак наводзіў жах на ганарыстых рымлян. Тры гады разбіваў іх арміі.

Аднаго разу ён сабраў 300 палонных патрыцыяў і загадаў ім біцца паміж сабой так, як калісьці біўся Спартак і яго таварышы ў цырку. Гарачае жалеза прымусіла патрыцыяў пачаць „гладыятарскі бой“.

А тысячы рабоў стаялі навакол і з захапленнем глядзелі, як іхныя паны забіваюць адзін аднаго на пацеху гладыятарам.

„Я выканаў сваё абяцанне, дарагі Гор“,— думаў Спартак, гледзячы на гэтую бойку.

---

Але ўсё-ж такі Рымская дзяржава была больш магутнай, як армія Спартака. Рымскія лёгіёны былі навучаныя і дысцыплінаваныя, а ў Спартака армія была не падрыхтаваная да вайны.

І калі Рым выставіў апошнюю стотысячную армію пад камандай Краса, то паўстанню прышоў канец. Спартак рынуўся ў апошні бой і загінуў разам з дзесяткамі тысяч сваіх таварышоў.

А тыя шэсць тысяч чалавек, што трапілі ў палон, былі распяты на крыжах па дарозе ў Рым.

Так расправіліся патрыцыі з нявольнікамі, якія адважыліся дамагацца права быць людзьмі.



Л. Н. ТАЛСТОЙ

# РУСАК

Заяц-русак жыў зімою каля вёскі. Калі настала ноч, ён падняў адно вуха, паслухаў; потым падняў другое, павадзіў вусамі, панюхаў і сеў на заднія лапы. Потым ён скокнуў раз, другі па глыбокім снягу і зноў сеў на заднія лапы і стаў аглядацца. З усіх бакоў нічога не было відаць, апрача снегу. Снег ляжаў гурбамі і блішчаў, як цукар. Над зайцавай галавою стаяла марозная пара, і скрозь гэту пару відаць былі яркія зоры.

Зайцу патрэбна было перайсці праз вялікую дарогу, каб прыйсці на знаёмае гумно. На вялікай дарозе чуваць было, як пішчалі палазы, фыркалі коні і скрыпелі крэслы ў санях.

Заяц зноў спыніўся каля дарогі. Сяляне ішлі каля саней з паднятымі каўнярамі. Твары іх ледзьве відаць былі. Бароды, вусы, расніцы іх былі белыя. З ратоў і насоў іх ішла пара. Коні іх былі потныя, і да поту пристаў іней. Коні штурхаліся ў хамутах, ныралі і выскаквалі з выбоінаў. Сяляне даганялі, выпярэджвалі, білі пугамі коней. Двое старых сялян ішлі поплеч, і адзін апавядаў другому, як у яго ўкралі каня.

Калі абоз праехаў, заяц пераскочыў дарогу і памаленьку падаўся да гумна. Сабачка ад абозу ўбачыў зайца. Ён забрахаў і кінуўся за ім. Заяц паскакаў да гумна па гурбах; зайца трымалі гурбы, а сабака хутка ўвяз у снягу і спыніўся. Тады заяц таксама спыніўся, пасядзеў на задніх лапах і паціху пайшоў да гумнаў. Па дарозе ён, на руні, сустрэў двух зайцоў; яны карміліся і забаўляліся. Заяц пагуляў з таварышамі, пакапаў з імі марозны снег, паеў руні і пайшоў далей. У вёсцы было ціха, агні былі патушаны. Толькі чуваць быў плач дзіцяці ў хаце праз сцены ды трэск марозу ў бярвеннях хат. Заяц зайшоў за гумно і там знайшоў таварышоў. Ён пагуляў з імі на чыстым таку, паеў аўса з пачатай кладоўкі, потым пайшоў назад. На ўсходзе днела, зорак стала меней, і яшчэ гусцей марозная пара падымалася над зямлёю. У бліжэйшай вёсцы прачнуліся жанчыны і ішлі па ваду; мужчыны неслі харчы з гумнаў, дзеці крычалі і плакалі. Па дарозе яшчэ болей ішло абозаў, і сяляне мацней гутарылі.

Заяц пераскочыў праз дарогу, падышоў да сваёй старой нары, выбраў месца дзе вышэй, раскапаў снег, лёг задам у новую нару, паклаў на спіне вушы і заснуў з расплюшчанымі вачыма.



# КАВАЛЬ-ВЯРНІДУБ

*Казка А. ЯКІМОВІЧА*
*Рысункі В. ВОЛКАВА*

IV *)

Ехаў шмат ён дзён ці мала,
Ды бяда яго спаткала:
Як раптоўны з неба гром,
Войска царскае кругом
Незлічонай чорнай сілай
Вярнідуба акружыла,
Крумкачамі аблягло,
Шлях-дарогу заняло.

Уся зброя іх стальная,
Ўся адзежа бляшаная;
Ўсе вяльможныя паны—
Проста рыцары адны.
Як глядзець на іх—здаецца
Ў бойку кожны так і рвецца.
А наперадзе сам цар—
Той краіны уладар—
З барадою па калені,
Росту сажань ён,—не меней.
Усе ваякі, хоць куды,
Нібы родныя браты.

Стаў каваль. Арліным вокам
Аглядае ўсё навокал:
Страшна робіцца яму
Супраць войска аднаму.
І, спужаўшыся, асілак,
Заварачвае кабылу...
— Ай куды ты, ай куды ты?—
Закрычаў той цар сярдзіты.—
Мы ўсе едзем за табой,
За тваёю галавой.
І ад гневу барадою
Ён трасе, нібы мятлою,
Ды грыміць на ўсе лады:
— Гэй, падаць яго сюды!
Тут па царскаму загаду
Ўсе ваякі рад за радам—
Ўсе стральцы і ўсе баяры—
Грозна рушылі, як хмары,
Шаблі ўгору узнялі,



Загукалі, зараўлі,
Нібы лютыя звяругі,
І што сілы, і што духу
Ўсе ляцяць да каваля.
Аж гудом гудзе зямля...
З нечуванае трывогі
Стогнам стогне ўся дарога...

„Будзь што будзе"; вырашае
Сам з сабой каваль.
Булаву з плячэй знімае,
Аглядае даль.
Развітаўся з светам белым

---

*) Пачатак гл. у № 11 і 12 за 1935 г.
УВАГА: казка друкуецца ў скарочаным выглядзе, поўнасцю яна хутка выходзіць з друку асобнай кніжкай.

І як грозны леў
На рады баяраў смела
Ў бітву паляцеў.

Як махнуў ён булавою
Так са два разы—
Галава за галавою,
Нібы гарбузы

З плеч баярскіх паляцелі
На усе бакі...
Па каменнях затрупцелі
Проста, як гаршкі.

Як махнуў ён булавою
Яшчэ трэці раз—
Трупы цэлаю гарою
Выраслі ураз...

Вось чацверты раз заносіць
Булаву каваль,
Ды—рука спачынку просіць,—
Звісла булава...

Больш не хоча узнімацца,
Стала як гара.
Адмаўляецца змагацца
З войскамі цара...

Прытамілася сілёнка
Малайца таго:
Не гудзе ў паветры звонка
Булава яго...

А баяры-ж, нібы мухі,
Разгудзеліся над вухам,
Аблажылі ўсё кругом,
Насміхаюцца з яго:
— Ай і грозны-ж ты, хлапчына,
Ай, якія дзівы чыніш!..
Ды, малойчык, мы з табой
Хутка справімся, пастой!
Растраўляюць яму сэрца,
Каваль з гневу аж трасецца,
Іскры сыплюцца з вачэй,
Як агнём нутро пячэ.

Тут і цар к яму пад‘ехаў,
Заліваецца ад смеху,
Аж калоцяцца бакі:
— Ух, ваяка ты які!
Замарыўся з булавою?
А цяпер, брат, галавою
Ты заплаціш нам сваёю!

Ты заплаціш—ха-ха-ха!
Не сілач ты, а блыха...

Скрыгітнуў каваль ад злосці
Грозна глянуў на цара.
— Насміхацца, ягамосцю,
Яшчэ рана—не пара!
Яшчэ рана мне, мой мілы,
Смерць прарочыць і палон...
І, сабраўшы рэшту сілы,
За мятлу хапіўся ён.

Цар, і войкнуць не паспеўшы,
З ног зваліўся самы першы.
Паслухмяная мятла
Чыста-гладка памяла...
Нібы востраю касою,
Стаў касіць каваль мятлою.
І, баяры як клубкі
Котам коцяцца ў бакі,
Шаг за шагам так патроху
Ачышчаючы дарогу,
Дзе ўсясільная мятла
Прашумела, прагула.
Толькі вецер з завірухай
Свішча шумна, вые глуха,
Ды з ілба, што буйны град,
Пот ліецца, як з вядра.
І налева, і направа
Косіць наш каваль наславу.

Так да вечара мяла
Паслухмяная мятла.
Незлічоную ўсю сілу
Войска царскага злажыла.
Спіць ваяк на ваяку,
Як снапы на таку.

Узмах мятлы каваль спыняе,
Поле бітвы аглядае,—
Пераможаных баяр.
Выцірае потны твар;
Вочы радасцю іскрацца:
Скончыў трудную ён працу,
І на царскіх на касцях
Пралажыў сабе ён шлях...

Атрымаўшы перамогу,
Зноў пускаецца ў дарогу;
Да самой сталіцы
Ён цяпер імчыцца.

*(Канец будзе)*

# КАЛГАСНАЯ РАДАСЦЬ

Трыбуна праменіцца
Пышнай украсай:
Вялікага свята
Калгас прычакаў.
І ў кожнага радасць:
Ад гэтага часу
Навечна зямлю
Наш калгас атрымаў.

І льюцца прамовы
З калгаснай трыбуны,
І ўдзячнасцю Сталіну
Словы гучаць

За калгасы,
Што цветам красуюцца буйным,
Што знялі навечна
Прымусу пячаць.

А як ноч надышла,
Глянуў месяц з-за саду,—
Зашумеў, загудзеў наш калгас
Аж да дня.
І слухала ноч
Нашу гулкую радасць,
А восенскі вецер
Ёй песні спяваў.

# ПАДУМАЙ



## Пасадзіце ў клетку

На нашым рысунку сем трусікаў. Яны знаходзяцца на волі.

А вы паспрабуйце, рэбяты, пасадзіць кожнага трусіка ў клетку.

Правядзіце паміж трусікамі тры прамыя лініі так, каб кожны трусік быў у асобнай клетцы.

**Адказ на задачу з № 11 за 1935 г.**

Вось так трэба складаць з частак рысункі.



## Загадкі

1. Ні мора, ні зямля, караблі не плаваюць, бо нельга. (Балота)

2. Што без ног бяжыць, без рук стучыць. (Вецер)

3. Сяду вярхом, не знаю на ком, знакомца сустрэну, зараз саскочу. (Шапка)

**Рэбяты! Шліце свае загадкі, пішыце пра сваё жыццё і вучобу, пра цікавыя здарэнні з вамі і вашымі таварышамі ці знаёмымі. Лепшыя вашы матэрыялы будуць надрукаваны ў журнале.**

# ЦІКАВА ВЕДАЦЬ

## ЦІ ДАЎНО ЛЮДЗІ МЫЮЦЦА?



Мыцца людзі пачалі не так даўно. Першымі сталі мыцца самыя багатыя людзі. Але гадоў трыста таму назад нават каралі мыліся не кожны дзень. Французскаму каралю ў той час раніцай падавалі мокры ручнік, якім ён выціраў твар і рукі. Усе лічылі, што гэтага зусім даволі. Бялізну для караля мылі таксама раз у месяц, а то і ў два.

Зараз бадай у кожным вялікім доме ў горадзе ёсць вадаправод. Вады колькі хочаш. Можна мыцца, мыць бялізну і падлогі. Зусім не так было раней. Ніякага вадаправода ў горадзе не было. Сям-там на пляцах знаходзіліся студні, з якіх ваду цягалі пры дапамозе кола. У такіх студнях часта знаходзілі дохлых кошак і пацукоў, вада была брудная і гнілая.



Каналізацыі ў той час, вядома, таксама не было. Памыі выліваліся проста на вуліцу з акон. Пасярод вуліцы выкапвалі канаву, куды і сцякала вада.

Не дзіва, што даўней людзі хварэлі куды больш, чым цяпер. Ніхто не ведаў тады, што, дзе бруд, там і зараза. Здаралася, што цэлыя гарады вымíралі ад розных пошасцей—чумы, чорнай воспы і іншых заразных хвароб.

## ШТО ЕЛІ ДАЎНЕЙ?

Быў час, калі людзі не ўмелі здабываць хлеб. Яны харчаваліся мясам, карэннямі дрэў і травы.

Трудна сказаць, калі чалавек упершыню пачаў сеяць збожжа і спажываць яго для яды. Ва ўсякім разе з таго часу мінула тысячы год.

Першы хлеб быў мала падобны на цяперашні. Гэта была проста каша з пакрышаных і змешаных з вадою зярнят.

Здаралася, што гэта каша засыхала. Кавалкі сухой кашы і замянялі людзям у тыя часы хлеб.

Шмат вякоў прайшло, пакуль людзі навучыліся пячы добры хлеб. Кажуць, што гадоў дзвесце людзі сярэдняй заможнасці елі такі хлеб, якога-б зараз і ў рот ніхто не ўзяў.

Даўней нават самыя багатыя людзі не елі звычайнай бульбы. Бульба з'явілася ў нас нядаўна. Сто пяцьдзесят год таму назад бульба была яшчэ навіною. Вядома, напрыклад, што французская каралева ў той час насіла ў пятліцы бульбяны цвет, а вараная бульба штодня падавалася на каралеўскі стол.

Але не прайшло і некалькі дзесяткаў год як бульба пашырылася так, што са стравы каралёў зрабілася стравай беднякоў.

## ЧАМУ НЕЛЬГА КОЎЗАЦЦА НА КАНЬКАХ ПА ПАДЛОЗЕ?

Адзін хлопчык адказаў на гэта пытанне так:

— Таму, што лёд—слізкі і вельмі цвёрды, а падлога не.

Але бывае і каменная падлога: яна цвёрдая і слізкая. А вось коўзацца на каменнай падлозе ўсё-ж нельга.

А справа тут вось у чым. Калі мы коўзаемся па лёдзе, лёд пад націскам канькоў растае. Паміж канькамі і лёдам ствараецца тонкі пласт вады. Каб не было гэтай вады, коўзацца па лёдзе было-б так-жа цяжка, як і па падлозе. Вада як масла ў машыне змазвае канькі і праз гэта яны не так шаруюцца аб лёд.



ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСВЕТЫ
ВЫДАННЕ ЮНДЗЕТСЕКТАРА ДВБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ОКЦЯБРАТ І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ

СТУДЗЕНЬ 1936 № 1

ЦАНА 3? КАП.

70

# ЯК ДЗЕЦІ ЗЛАВІЛІ МЯДЗВЕДЗЯ

А хто гэтаму не верыць, дык няхай ён сам праверыць



1



2



3



4



Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ | Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА | Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ

Друкарня імя Сталіна | 30.275 экз. | Заказ № 1145. | Уп. Галоўлітбела № Б 3691.